Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

Вільня, 7-га красавіка 1934 г.

№ 7 (32).

Год 2-гі

# РОДНЫ КРАЙ

ОРГАН ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ АСЬВЕТЫ

выходзіць двойчы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Мэтрополітальны пляц 3 кв. 12.
Прыймо інтэрэсантаў:
у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г.
у Рэдакцыі „ ад 12— 2 г.

Падпіска з дастаўкай поштай:
За год 3 зл. 50 гр.; за паўгоду—2 зл.
за 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.;
за 1 месяц — 40 грош.

Цана асобнага нумару 20 гр.

*Гарачымі — з глыбіні сэрца вылiўшыміся словамі без пары памершага поэты вітаем з Вялікім Днём усіх нашых чытачоў, карэспандэнтаў, працаўнікоў!*

## Хрыстос Уваскрос!

... Хрыстос Уваскрос!

З вялікім сьвятам адвечнага ад'жыўленьня віншую цябе, Вялікі Беларускі Народ! Гэтай вялікай ночы страсі з сябе ўсю пагарду, увесь бруд, каторым аблепліваюць цябе ад вякоў. Чыста вымыйся, прыбярыся ў найлепшую вопратку, каб хоць на адзін дзень стаў ты роўным з усімі. Ідзі туды, дзе пачуеш гэтыя вялікія словы:

— Хрыстос Уваскрос!

Услухайся ў іх. Якая вялікая сіла, які ўсёважыўляючы зьмест захаваны ў іх! Ці ня чуеш, як радасьцю надзеі, радасьцю скорага ўваскрасеньня вее на цябе ад гэтых слоў:

— Хрыстос Уваскрос!

Радуйся, мой родны Краю! Надзея, як жывучая вада, льлецца ў тваю душу. Скора і ты ўваскрэсьнеш ад доўгага мёртвага сну. Вясна прыйшла і для цябе. Хрыстос Уваскрос!

Над Ім зьдзекаваліся. Яго білі па твару, сьцябалі бізуном. Плявалі на Яго. Кпілі з Яго. У канцы расьпялі і расьпятага не пераставалі мучыць. Сьпечаныя смагай вусны зьвільжывалі воцатам і жоўцю. Ен памёр на крыжу паміж двох разбойнікаў. Але ўсё-ж-такі—Хрыстос Уваскрос!

Уваскрос Хрыстос, і крыж, раней знак пагарды і сораму, зрабіўся сьвятыняй усяго сьвету. Мукі Хрыстовы змылі ўсё з яго. І штогоду вялікай вясеньняй ночы тысячы цэркваў і касьцёлаў сьвецяцца агнямі сьвечак, льлецца радасны пераклік званоў, крыж падымаецца над мільёнамі схілёных галоў і ў паветры носіцца радасны шэпт:

— Хрыстос Уваскрос!

Што гавораць табе званы, Беларускі Народ? Ці ня віншуюць яны цябе яшчэ і з тваім уласным вялікім сьвятам? Скора-ж і ты ўваскрэсьнеш!

Ад вякоў пагарджалі табой, тваей мовай; ад вякоў мелі за быдла, годнае толькі на цяжкую, надсільную работу. Не давалі табе расьці і разьвівацца. Воцатам чужой культуры зьвільжалі твае сьпечаныя смагай сьвету вусны. Лепшых тваіх сыноў адрывалі ад цябе, прымушалі іх зрабіцца здраднікамі. А цяпер пышаюцца імі, называюць іх сваімі. І яны такі іхнія. А хіба-ж яны ня любілі цябе? Хіба лепшы жар свайго сэрца ахвяравалі не табе? А дзе яны? Іх няма з табой! З самаго малку адарвалі іх ад роднай глебы, атруцілі здрадай. І іх, тваіх дзяцей, маюць за зброю проці цябе. Цябе катавалі. Ты цярпеў мукі, але ня ўмёр. Глыбока, глыбока ты захаваў сваю душу. Хрыстос быў з табой у тваіх муках, і Ен разам з табой цярпеў іх. Колькі разоў расьпіналі Яго разам з табой! Больш разоў, чым ёсьць пяшчынак на дне мора! Але кожнага году па ўсей Беларускай зямлі разносіўся клік:

— Хрыстос Уваскрос!

... І ты ўваскрэсьнеш, мой родны Краю! Скінеш з шыі ярмо адвечнага гора і нуды.

Дагэтуль мы плачам, дагэтуль
мы стогнём,
Адвечных ня можам пазбыціся
сьлёз...

Ты ўжо перастанеш плакаць. Ты падняў свой твар. З надзеяй ловіш зыкі званоў:

— Бом! бом!... Прачыхайся ад сну, Беларусь! Годзі стагнаць ды жаліцца, жальба нічога ня дасьць табе. Уставай! Ідзі будаваць зруйнаваную бацькаўшчыну!

Наперад, па шчасьце! Хай злое ўсё
дрогне!
Вясна ўжо на сьвеце—Хрыстос Уваскрос!

Я бачу, як сьвятлее твой твар, мой родны Краю. І, поўны сілы і веры, я крычу ўва ўсю моц тваім нівам, лясом і балотам, тваім панурым вёскам, тваім пакрыўджаным сыном:

— З вялікім сьвятам віншую! З вялікім сьвятам, Вялікі Беларускі Народ!

— Хрыстос Уваскрос!

1910 г. **С. Палуян.**

# У шэрыя будні.

Толькі-што адсьвяткаваны ўрачыста дзень абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі—дзень выяўленьня запраўднае палітычнае дасьпеласьці Беларускага Народу — выклікае ў душах нашых многа думак-разважаньняў. Гэтак заўсёды бывае, калі сьвята зьмяняецца шэрымі буднямі.

Ускрашаючы ў мысьлі дзень 25-га сакавіка 1918 году, з якім зьвязаны ўздым нашых надзеяў на спаўненьне найсьвятлейшых лятуценьняў аб вольным і незалежным жыцьці народу, мімаволі з жахам глядзім мы на сяньняшнія шэрыя будні. Цёмна, панура навакол нас. Там, на Усходзе, дзе, здавалася, распачата было йшчэ гэтак нядаўна будаваньне Беларускага Дому,— будаўнічыя гэтага нашага нацыянальнага Дому паўкіданы ў лёхі Г. П. У., абвешчаны Масквой „здраднікамі свайго народу", церпяць катаваньні і фізычныя, і маральныя. Тут, на Захадзе, высілкі беларусаў стварыць для сябе магчымасьць разьвіваць сваю нацыянальную культуру і тварыць нацыянальныя цэннасьці сустракаюць на сваім шляху цяжкія, часта непераможныя перашкоды... І, раўнуючы той сьветлы, запраўды сьвяточны дзень з сяньняшнімі буднямі, шмат у каго апускаюцца бясосільна рукі, і цяжкая туга спавівае душу і сэрца. Успываюць у памяці поўныя трагізму словы беларускага поэты, які—ў мамэнт духовае зьнямогі — кідаў свайму грамадзянству жахлівае пытаньне:

> Брацьця, ці зможам грамадзкае гора?
> Брацьця, ці хваце нам сілы?...

Так пісаў Максім Багдановіч задоўга да вялікага дня 25 сакавіка 1918 году, — у той час, калі на зямлі Беларускай — пад уладай Расеі — панавала страшная палітычная рэакцыя, граміўшая ўсе праявы вызвольнага руху, перахаваўшыяся ад рэвалюцыі 1905 году. Аднак, ня гледзячы на пэсымізм поэты, не прайшло й сямёх гадоў, як новы выбух рэвалюцыйнага руху ў Расеі зваліў царскую ўладу, разьбіў мур няволі, што абыймаў паняволеныя Масквой народы, і даў ім магчымасьць распачаць будаваньне сваёй будучыні — сваімі ўласнымі рукамі. І Народ Беларускі „перамог грамадзкае гора", і яму „хваціла сілы", каб скінуць з сваей шыі векавое ярмо ды абвясьціць незалежнасьць свае́й Бацькаўшчыны.

Прыклад гэты няхай паслужыць для нас праменьнем сьвятла ў нашыя шэрыя будні. Але прыклад гэты хай будзе для нас і навукай. Пасьля няўдачы рэвалюцыі 1905 году беларусы ўсе свае сілы пакіравалі на няпрыкметную, але цяглую, упорлівую, нясупынную культурна-нацыянальную працу. Вынікам гэтае працы і быў акт 25 сакавіка 1918 году: без яе Беларусь ня здолела-бы выявіць сваё нацыянальнае аблічча.

Гэтак і цяпер. Пасьля сьвята, пасьля ўрачыстых настрояў — будзем ізноў з усіх сваіх сілаў брацца за штодзенны, нудны й шэры труд, труд над усьведамленьнем народу, над разьвіваньнем нацыянальнае і соцыяльнае сьвядомасьці ў нашых сялянскіх масах, над падыйманьнем вышэй іх культурнага роўня і тварэньнем культурна-нацыянальных цэннасьцяў. І гэтым мы збудуем мураваны, нязломны, непарушны фундамант дзеля будучыні — сьветлае і шчасьлівае.

Дык — да працы, браты! „Уперадзе — агні".

# Сьвяткаваньне угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі.

Як і кожын год, сёлета беларускае грамадзянства ў Вільні ўрачыста адсьвяткавала дзень 25 сакавіка.

Раніцай адбыліся царкоўна-касьцельныя ўрачыстасьці—у Пятніцкай і сьв.-Духаўскай цэрквах ды ў касьцеле сьв. Мікалая—усюды з казаньнямі ў беларускай мове. Увечары-ж наладжаны былі дзьве акадэміі: ў салі Беларускае Гімназіі (Вострабрамская 9), з'арганізаваная Таварыствам Беларускае Асьветы, і ў памяшчэньні Інстытуту Бел. Гасп. і Культ. (Завальная 1), з'арганізаваная хадэцыяй.

—·—

Акадэмія ў салі Гімназіі распачалася ў 7 гадз. вечара ўступной прамовай старшыні ТБА гр. С. Караля, які адзначыў важнасьць нацыянальнага сьвята ў беларускім жыцьці і пасьля даў слова гр. А. Луцкевічу.

Гр. Луцкевіч у сваей гадзіннай прамове адзначыў перад усім, што цяпер для ўсіх нас словы „незалежнасьць Беларусі" — такія простыя, зразумелыя, як простай і зразумелай зьяўляецца кожная вялікая праўда, вялікая ідэя. Але беларускае грамадзянства дайшло да гэтай сваей праўды шляхам даўгое працы мысьлі і барацьбы. Ад пачатку XIX ст. ішлі гутаркі аб злучэньні Беларусі з Польшчай, за адбудаваньне каторае адбывалася аружная барацьба. Да гэтага-ж заклікаў у 1863 годзе павадыр паўстанцаў на Беларусі Костусь Каліноўскі, які выдаваў у беларускай мове праклямацыі да беларускага сялянства, стараючыся падняць яго да змаганьня за вызваленьне з-пад панаваньня Расеі. Але сялянства не адгукалася, — навет, наадварот, варожа адносілася да паўстаньня, кіраванага польскімі панамі. Сялянства пачало варушыцца толькі пазьней—у сувязі з рэвалюцыйным рухам, што быў узьняўся па ўсей Расеі ў 70-80 гадох пад кіраўніцтвам партыі „Народнае Волі". Партыя гэтая абвяшчала, што—пасьля перамогі рэвалюцыі—Расея павінна быць перабудавана на падставах фэдэрацыі, падставах саюзу вольных народаў, дагэтуль паняволеных царскай уладай. Партыя дэклярравала даць аўтаномію і Беларусі — на роўных правох з Польшчай, Украінай і інш. Дык да партыі пацягнуліся і беларусы і ўтварылі ў ёй сваю беларускую фрак-

цыю, каб, змагаючыся з царскай уладай, зьдзейсьніць ідэю аўтаноміі Беларусі.

З таго часу — ад 80-ых гадоў мінулага стагодзьдзя—сярод беларусаў панаваў лёзунг аўтаноміі. Гэты-ж лёзунг пераняла ў пачатку 900-ых гадоў і Беларуская Рэвалюцыйная Грамада. Пад гэтым сьцягам беларусы прыймалі ўчасьце ў рэвалюцыйнай барацьбе ў 1905 годзе. I калі ў выніку перамогі рэвалюцыі ў Расеі ў 1917 годзе ў Менску сабраўся Усебеларускі Кангрэс з 2.000 дэлегатаў ад усяе Беларусі, дык і гэты зьезд стануў на груньце аўтаноміі Беларусі і прыступіў да будаваньня Беларускае Народнае Рэспублікі, не адрываючыся ад Расеі. — Але зьезд быў разагнаны савецкім урадам аружнай сілай, бо і савецкая ўлада аднеслася да гэтае ідэі таксама варожа, як варожа адносіліся і царскія ўлады, і дэмакратычны ўрад Керанскага. А сьледам за разгонам Усебеларускага Кангрэсу тая-ж савецкая ўлада пры падпісаньні міравое ўмовы з нямецкім кайзэрам у Бярэсьці „падаравала“ немцам Заходнюю Беларусь.

Усё гэта шмат аслабіла ў беларусаў пачуцьцё неразрыўнасьці сувязі Беларусі з Масквой. А ў тым-жа часе за лініяй ваеннага фронту—ў Вільні — беларускае грамадзянства ўжо дайшло да таго пераканаьня, што землі Беларускія, адарваныя падчас вайны ад Расеі, не павінны быць адданы пад новае ярмо — нямецкае, а мусяць стацца (— разам з землямі Літоўскімі) незалежнай дзяржавай. I калі Менск быў заняты немцамі ў пачатку 1918 году, віленскія беларусы паслалі туды сваю дэлегацыю, каб зьвязацца з створанай тамака Радай Рэспублікі. Дэлегацыя прыняла ўчасьце ў паседжаньні Рады Рэспублікі 24-25 сакавіка, і ў выніку абмену думак заходніх і ўсходніх беларусаў Рада пастанавіла абвясьціць Беларускую Народную Рэспубліку незалежнай дзяржавай.

Прамоўца закончыў сваю прамову тым, з чаго пачаў: адзначэньнем вялікіх высілкаў мысьлі і працы барацьбітаў за Беларусь, якія сваім ахвярным жыцьцём паклалі фундамант дзеля ідэі незалежнасьці Беларусі, а також з аружжам у руках змагаліся за зьдзейсьненьне гэтае ідэі. Прамоўца запрапанаваў сабраным на акадэмію грамадзянам ушанаваць памяць усіх іх паўстаньнем з мейсц.

Уся саля, як адзін чалавек, устала, а вучнёўскі аркестр адыграў хаўтурны марш.

Пасьля кароткага перарыву пяяў вучнёўскі хор пад кіраўніцтвам гр. Караля, і вучні дэклямавалі творы беларускіх пісьменьнікаў, пасьвячоныя Беларусі (Купалы, Коласа, Зьмітрака Бядулі, Цішкі Гартнага, Родзевіча). У заключэньне аркестр адыграў беларускі нацыянальны гымн „Ад веку мы спалі“, які публіка прапяяла стоючы.

Саля была перапоўнена: сабралася народу каля 250 асоб. Многа было моладзі: вучняў гімназіі, духоўнае сэмінарыі, тэхнічнае школы, а також студэнтаў, у тым ліку дэлегацыя корпорацыі „Скарынія“ з сваім сьцягам. Уражаньне акадэмія зрабіла вельмі сільнае.

Над сталом прэзыдыуму на вялікім экране грозна ўзьнімаўся коньнік Пагоні, вельмі прыгожа намаляваны беларускім мастаком грам. П. Сергіевічам.

---

Хадзецкая акадэмія складалася з рэфэрату кс. Гадлеўскага аб падзеях, якія папярэдзілі ці былі зьвязаны з актам 25 сакавіка 1918 году. Прамоўца расказаў шмат падробнасьцяў, дагэтуль мала ведамых нашаму грамадзянству.

Пасьля выступленьня кс. Гадлеўскага і традыцыйных прывітаньняў пяяў хор пад кіраўніцтвам гр. А. Стэповіча. I гэты вечар закончыўся пяяньнем нацыянальнага гымну „Ад веку мы спалі“.

Саля Інстытуту была перапоўнена, што сьведчыць вельмі красамоўна аб значным ажыўленьні сярод беларускага грамадзянства ў Вільні. Публікі хапіла на абедзьве акадэміі, ня гледзячы навет на тое, што студэнцкая моладзь ужо блізу ўся разьехалася на сьвяты. Беларусы паказалі, што яны ў сталіцы Краю ёсьць і ня толькі не слабеюць тут, але крапчэюць.

---

# Напярэдадні польска-літоўскага паразуменьня.

Справа таго ці іншага паразуменьня паміж Польшчай і Літвой яўна зрушана з „мёртвага пункту“. Як польская, так сама і літоўская прэса прысьвячае справе гэтай шмат мейсца. Дзіўным толькі выдаецца, што тады, калі літоўская прэса падае цэлы рад фактаў і чутак, якбыццам пацьвярджаючых навет „распачацьце перагавораў“ (пакуль-што тайных, прыватных), з польскага баку рашуча пярэчаць гэтым весткам.

Што на польска-літоўскім адрэзку павінны адбыцца нейкі зрух і зьмена, гэта-ж ясна кожнаму. Бо-ж грунтоўная зьмена адбылася ўжо ў узаемных стасунках двух галоўных „палітычных жырантаў“, ці гарантаў Літвы: СССР і Нямеччыны. Калі яны былі прыязнымі саюзьнікамі, тады абодва гарантавалі незалежнасьць, нятыкальнасьць і навет „віленскія асьпірацыі“ Літвы, якая для іх зьяўлялася неабходным мастом. Цяпер, калі яны пасварыліся не на жыцьцё, але на сьмерць, Літва павінна стацца паміж імі не мастом, а бар'ерам.

Асабліва заінтэрэсаваны ў гэтым СССР, бо-ж, як ведама, бліжэйшы супрацоўнік Гітлера, яго „спэц па справам Усходу“, абвясьціў цэлы плян нямецкай „калёнізацыі Усходу“, ці прасьцей кажучы — захвату Нямеччынай Беларусі і Украіны. Ведама так сама, што зусім нядаўна галава гданскіх гітлераўцаў у сваім органе навет выразна прапанаваў Польшчы супрацоўніцтва з Нямеччынай у гэтай акцыі на Усходзе.

Ясна, што Польшча, падпісаўшы паразуменьне з Масквой (— ведамы пакт аб ненападаньні), адмовілася тым самым ад гэтай прапазыцыі, бо-ж абязалася не памагаць „трэцяй дзяржаве“ ў вайне проці СССР. А тады гэны „літоўскі мост“, па якому немцы толькі-ж і маглі-б прайсьці на Усход, для СССР павінен быць пераробелены ў бар'ер. Але—ці-ж Літва, дробная дзяржаўка з сваей маленечкай арміяй, можа споўніць такую цяжкую задачу: зачыніць перад магутнай нямецкай арміяй балтыцкую браму на Усход? Адказ ясны кожнаму.

Ня будзем рабіць далейшых развэжаньняў. Скажам толькі, што залішне важныя стаўкі ўваходзяць у йгру хаця-б для аднэй Савецкай Расеі, каб яе ўрад сьцясьняўся тымі ці іншымі „прырачэньнямі“, дадзенымі Літве. Раней савецкая гарантыя нятыкальнасьці Літвы—„ад нападу з боку Польшчы“ — была адначасна гарантыяй бясьпечнасьці для СССР ад польска-францускага ваеннага саюзу; цяпер нятыкальнасьць Літвы сталася для СССР рэальнай стратэгічнай пагрозай з боку Нямеччыны...

Нямецкая прэса адкрыта пісала яшчэ нядаўна, „як мае адбыцца ўсё гэта ў блізкай будучыні“.—Як толькі Японія абвесьціць вайну СССР, Нямеччына ідзе на Усход... Тады пытаньне літоўскага маста-бар'еру адразу ставіцца рубам. І тут—ну, ясна-ж, — сваю ролю гаранта незалежнасьці і нятыкальнасьці Літвы ў новастворэных варунках СССР быў-бы змушаны уступіць прыязнанэйтральнай, калі не саюзнай Польшчы... Ясна і тое, што загарантаваць гэтую незалежнасьць і нятыкальнасьць Літвы, прынамся ад Нямеччыны, Польшча магла-б толькі заняўшы „літоўскі мост“ сваей арміяй...

—:—

Літоўскі ўрад, трэба думаць, павольна пачынае разумець гэты зьменены стан рэчаў ды пачынае рыхтавацца патроху да нейкіх рашучых крокаў, каб ратаваць незалежнасьць краю. Беларускае грамадзянства з вялікім зацікаўленьнем прыглядаецца да ходу выпадкаў у свайго найбліжэйшага суседа.

# Гаспадарчы аддзел.

## Развэжна распачынайма веснавы сэзон!

Як толькі пачнецца вясна, гаспадар павінен галоўную сваю ўвагу накіраваць у поле і быць прыгатаваным да веснавых працаў.

Першыя работы на абсыхаючай ральлі— —гэта раўняньне яе валакою (за валаку можа паслужыць звычайная дзеравяная рама, або колькі дзеравяных брускоў, злучаных паміж сабою). Раўняецца ральля дзеля таго, каб не засыхалі груды і каб з зямлі меней выпароўвала вільгаці. На вераўнянай ральлі хутчэй і балей прарасьце насеньне рознага ліхазельля, якое потым нішчыцца пры баранаваньні. Пры гэтым трэба не забываць, што да раўняньня ральлі трэба прыступаць, калі зямля належна абсохне, бо, раўняючы залішне вільготную зямлю, мы ня толькі ня мелі-б карысьці, але адну толькі шкоду: такая ральля балей зьляпілася-б, а пасьля, высахшы, зрабілася б цьвёрдаю, як камень.

За нейкі час пасьля зраўняньня ральлі валакою, калі зямля болей падсохла, яе барануюць і пасьля ўжо на ёй сеюць. Араць пад веснавыя пасевы ня радзіцца цалкам. Пад ярыну глыбокая ворка павінна быць выканана яшчэ ўвосені, а вясною для ўспульхненьня зямлі на глебах лёгкіх хопіць звычайнага баранаваньня, а там, дзе зямля зьлеглася, трэба пушчаць культыватары або пружыноўкі. Да веснавое воркі можна прыступіць толькі ў выпадку крайняе патрэбы, калі зямля ўжо вельмі зьлілася, або калі поле восеньню негаранае, ці ёсьць патрэба загараньня гною. Пры заворваньні гною трэба памятаць адно: што заворваць яго трэба зусім плытка, ня глыбей 12-15 цэнтыметраў.

Што-ж тычыцца парадку, у якім павінныісьці за сабою веснавыя пасевы, то ён у розных умовах бывае розны. Адно толькі з падсевам канюшыны ў азімае трэба зачаць як найраней, як толькі згоніць сьнег. Калі ў часе падсеву канюшыны ў азімае глеба ўжо даволі прасохла, дык тагды рассеяную канюшыну трэба лёганька забаранаваць і прыкатаць гладкім лёгкім пакатком (валам). На глебах, якія вясною сільна высыхаюць, падсеяная ў азімае канюшына ўдаецца часта лепей, чым падсеяная ў ярыну. На глебах сухіх таксама загадзя трэба падсяваць сэрадэлю.

Там, дзе глеба больш-менш аднолькавая, веснавыя пасевы чаргуюцца ў такім парадку: спачатку сеюцца стручковыя, потым за імі йдуць збажовыя і нарэшце асыпныя. Аднак, такога парадку ня трэба прытрымлівацца заўсёды, як правіла. Калі поле абсохла і гатова да сяўбы, то яго трэба зараз-жа засяваць такою расьлінаю, якая паводле севавароту прыпадае, і не зважаць на тое, што гэтаю расьлінаю будзе збажына ці асыпная.

У добра ведзеных гаспадарках яравыя пасевы амаль што заўсёды прыкатваюцца пакатком (валам). Прыкатваньне, агулам кажучы, лічыцца карысным. У залежнасьці ад таго, калі яравая сяўба праведзена, прыкатваюць або зараз пасьля яе, або пазьней, калі яравая збажына ўзыйдзе. Калі з сяўбою спазьніліся і сеюць у сухую зямлю, то карысна зараз-жа па сяўбе прыкачаць глебу, каб даць магчымасьць прыступу вільгаці да зярнят з глыбейшых пластоў глебы. Аднак, часта бывае, асабліва на глебах клейкіх, што на прыкачанай паверхні глебы лягчэй зьяўляецца пасьля дажджу скарынка, а дзеля таго такія глебы прыкачваюць пасьля таго, як ярына крыху адрасьце. Чым глебы лягчэйшыя, тым цяжэйшы павінен быць ужыты пакаток.

Далей пры даглядзе за вясеньнімі па-

севамі трэба старацца, каб на паверхні глебы не тварылася скарынка. Пасьля дажджу на паверхні толькі што засеянага поля часта творыцца скарынка, якая потым засыхае і не дае магчымасьці прарастаючым расьлінкам выбрацца на паверхню. Расьлінкі душацца і гінуць. Нішчыць гэтую скарынку можна востраю бараною або пакаткам. Калі насеньне яшчэ не прарасло або пачало толькі-што прарастаць, то тагды яшчэ можна гэтую скарынку зьнішчыць лёгкаю востраю бараною. Найлепей баранаваньне правясьці незадоўга па дажджы, пакуль глеба лёгка дробіцца. Пазьней, калі расьлінкі праб'юцца аж да самае скарынкі і толькі дзякуючы ёй далей ня могуць расьці, тады скарынку трэба разьбіць зубатым пакаткам або нават і гладкім, абкруціўшы яго колькі разоў ланцугом. Калі ярына парадкам здрасла і на паверхні глебы ўсё-ж такі зьявіцца скарынка, то і тагды яе можна нішчыць баранаваньнем, але гэта павінна рабіцца вельмі асьцярожна.

Апрача вышэй успомненых выпадкаў, вясеньняе баранаваньне карысна для перазімаваўшае канюшыны і мурожных сенажацяў, калі гэтае баранаваньне будзе праведзена ў адпаведны час і належным спосабам. **Т. С.**

## Умова аб аплаце працы дворных работнікаў.

На 1934-35 гаспадарчы год для дворных работнікаў у Віленскім і Навагрудзкім ваяводзтвах устаноўлены гэткія нормы аплаты працы:

**Хурманы, парабкі, стаража, пастухі і палявыя работнікі** атрымліваюць ардынарыяй і грашмі:

**I катэгорыя** — пэнсія 90 зл., ардынарыя 12 квінталяў на год, — абязывае ў паветах: Нясьвіжскім, Навагрудзкім—апрача Дварэцкае гміны, Слонімскім — апрача гмінаў Дэрэўна, Бытань, Шыдловічы, Раготна, Казлоўшчына, Курыловічы, — ды ў Мірской гміне Стаўпецкага пав.

**II катэгорыя** — пэнсія 75 зл., ардынарыя 12 квінталяў, — абязывае ў паветах: Лідзкім, Шчучынскім, Баранавіцкім, Стаўпецкім, Валожынскім, Віленска-Троцкім — апрача гмінаў Араны, Алькенікі й Рудзішкі, Ашмянскім і Маладэчанскім пав., а такжа ў тых гмінах Слонімскага пав., дзе не абязывае I катэгорыя.

**III катэгорыя** — пэнсія 65 зл., ардынарыя 11 квінталяў,—абязывае ў паветах: Вялейскім, Пастаўскім, Дзісенскім, Браслаўскім, Сьвянцянскім, а такжа ў гмінах Араны, Алькенікі й Рудзішкі Віленска-Троцкага пав.

**Пэнсія рамесьнікаў**—найменш удвая большая, чым іншых працаўнікоў, і дзеліцца паводле катэгорыяў, устаноўленых для апошніх.

**Для сталаўнікоў** пэнсія грашмі вызначана:

для **I катэгорыі** — ад 14 да 11 зл. у зімовыя месяцы, ад 21 да 15 зл. у летнія месяцы;

для **II катэгорыі** — ад 13 да 10 зл. у зімовыя месяцы і ад 20 да 14 зл. у летнія;

для **III катэгорыі** — ад 12 да 9 злот. у зімовыя месяцы і ад 18 да 12 зл. у летнія месяцы.

**Летнімі** лічацца месяцы май, чэрвень, ліпень, жнівень, верасень, кастрычнік; **зімовымі**—лістапад, сьнежань, студзень, люты, сакавік, красавік.

# З Беларускага жыцьця.

## У Вільні.

**Дэлегацыя Беларускага Прафэсіянальнага Вучыцельскага Саюзу ў п. Куратара.** 29 сакавіка ў п. Куратара Віленскага школьнага вокругу была дэлегацыя Саюзу ў складзе: старшыня д-р Б. Грабінскі і віцэ-старшыня А. Луцкевіч. Дэлегацыя — на просьбу вучыцялёў беларускіх гімназіяў—высьветляла перадусім справу арганізацыйнага статуту беларускіх філіяў, які нядаўна быў прысланы гэтым філіям. П. Куратар выясніў, што тут узьнялося пэўнае недаразуменьне: гэта ня ёсьць статут, а часовы рэгулямін, які нормуе адносіны паміж „мацярынскімі“ гімназіямі, пры якіх існуюць беларускія „філіі“ (дочкі), і гэнымі філіямі. Беларускі характар філіяў забясьпечаны ў акце „ўпаньствовеня“ былых прыватных беларускіх гімназіяў, і п. Куратар ня зьбіраецца яго зьмяняць. Адзінай пагрозай існаваньню беларускіх філіяў магло-б быць толькі лішне значнае зьмяншэньне лічбы вучняў.

На гэту апошнюю заяву п. Куратара дэлегацыя падала яму абшырны мэморыял, які мае на мэце правядзеньне пэўных практычных крокаў, каторыя забясьпечылі-б нормальны даплыў вучняў у беларускія гімназіі. Прачытаўшы ўвесь мэморыял, п. Куратар некаторыя постуляты прызнаў адразу выпаўнімымі, другімі-ж абяцаў паважна заняцца.

Паміж іншым, дэлегацыя паінфармавала п. Куратара аб цэлым радзе мясцовасьцяў, дзе сяляне дамагаюцца беларускіх пачатковых школ, толькі ня могуць давясьці справы да канца з прычыны перашкод з боку адміністрацыі. Калі-б ня гэтыя перашкоды, народ усюды трэбаваў-бы роднае школы, бо гэтае дамаганьне сталася ўжо агульным.

**Сэсія Рады ТБА.** 28 сакавіка адбылася звычайная гадавая сэсія Рады Т-ва Беларускае Асьветы. Пасьля справаздачы Ураду і Рэвізыйнае Камісіі, Рада дала абсолютарыюм кіраўнічым органам Т-ва, дзеяльнасьць якіх была прызнана правільнай і карыснай. Пры

выбары новага ўраду б. віцэ-старшыня Ураду гр. Самойла адмовіўся выставіць сваю кандыдатуру. У выніку галасаваньня, спаміж выстаўленых кандыдатаў у склад ураду аказаліся выбранымі гр.гр. Кароль, Трэпка, Манкевіч, Астроўскі і Мюльлер, як сябры, і гр. гр. Глінскі ды Сіняўскі, як кандыдаты. У Рэвізійную Камісію увайшлі гр. гр. М. Ільяшэвіч, А. Бартуль і Б. Кіта, як сябры, і гр. В. Грышкевіч, як кандыдат.

**У Беларускім Навуковым Таварыстве.** У склад Бел. Нав. Т-ва ўвайшлі новыя сябры: адбылася прыймо гр. П. Шчаснага ды падаў заяву аб уваходзе ў склад Т-ва д-р Б. Грабінскі. Адначасна б. сябра-супрацоўнік гр. М. Пецюкевіч залічаны ў звычайныя сябры.

Агульны Гадавы Сход Т-ва адбудзецца 15 красавіка ў 10 гадз. раніцы ў памяшчэньні Беларускага Музэю (Вострабрамская 9).

## На правінцыі.

**Пісьмо з Пружанаў.** Выбачайце, пане Рэдактар, што так доўга зьбіраўся прысылаць падпісную плату за высланую ў крэдыт газэту. Ведама ўсім, як цяжка цяпер на вёсцы з грашыма. Але на родны, дарагі нам культурніцкі часопіс высіляюся, як мага.

Цяжка ў нас вельмі дастаць беларускіх кніжак. Вось, прыкладам, я: душа аж гарыць смагай да мастацкага беларускага слова. Божа ня толькі рвуся да чытаньня, але, як ведаеце, „грашу" крыху і пісаньнем — і прозай, і вершам. Хацеў-бы на мастацкіх узорах вырабіць і сваю „уласную мову", ці, як кажуць, „стыль". А маю — стыдна прызнацца: блізу адну толькі граматыку, ды то—старога выданьня. Ратуюць крыху, праўда, маю сітуацыю беларускія часопісы, Ваш і іншыя, якіх маем тутака аж тры. Была непадалёк ад нас — у Шэнях — бібліятэчка з беларускімі кніжкамі, але чамусьці зачынена.

У прошлым годзе выпісаў я новую граматыку і правапіс. Але пошта вярнула пасылку назад, бо „не знайшла майго адрасу", хаця адрас мой добра ведамы на пошце...Так кніжкі і згінулі. Ня любяць у нас нашыя „апякуны", каб вучыліся па-беларуску...

Падпішчык.

**40.000 сямей галадае.** Калі распачатая праца над арганізацыяй дапамогі галадаючаму насяленьню Віленшчыны бліжэй падыйшла да дзела, дык аказалася, што бяда значна перавышае першыя весткі аб ёй. Аказалася, што ў 5 абнятых голадам паветах Віленшчыны помач патрэбна для 40.000 сямей. Значыць, лічачы сям'ю ў сярэднім з 5 асоб, галадае ўсяго каля **200.000** душ.

З гэтага відаць, наколькі паважнае палажэньне вытварылася ў нашым Краі, якая цяжкая задача стаіць перад уладай і грамадзянствам Краю.

Зразумела-ж, што ў найбольш цяжкім палажэньні апынуліся малазямельныя гаспадаркі, якія і ў ураджайныя гады ня могуць пракарміцца на сваіх „галодных шнурох". Але да новага хлеба яшчэ далёка, дык трэба думаць, што да гэтай асноўнай масы малазямельнікаў далучыцца яшчэ шмат іншых, наагул самааплатных. гаспадарак. Усё гэта — вынікі таго, што ў свой час ня была праведзена ўрачыста абяцаная дзяржавай сялянству зямельная рэформа, што ня дадзена хлебаробу нашаму неабходная агранамічная веда, наагул ня створаны варункі, якія-б далі магчымасьць весьці больш карысную для сябе і для дзяржавы гаспадарку...

—·—

Трэба прызнаць, што бяда нашага краю знайшла зразуменьне ў кіруючых сфэрах, якія ня ўкрываюць разьмераў голаду, як рабіла гэта ўлада ў царскай Расеі. 1.500 тонаў мукі ўжо раздана насяленьню. Прыйшоў новы транспорт у ліку 1,200 тонн. Апроч гэтага, урад прызнаў Віленшчыне яшчэ 5,000 тон. збожа ў зярне, якое будзе выдавацца, як заплата за працу на шырока плянаваных грамадзкіх работах. Ваяводзкі камітэт мае павялічыць на 20% колькасьць выдаванай цяпер мукі. Асаблівую ўвагу Камітэт пастанавіў зьвярнуць на кармленьне дзяцей, для якіх раздана ўжо 1000 кіл. мяса і сала ды 100 кіл. цукру.

Але-ж гэта—капля ў моры. Віленскія газэты пішуць, што ў адным толькі Дзісьненскім павеце 20.000 дзяцей у школьным веку патрабуюць помачы.

Трэба дадаць, што сучасная акцыя ўраду і камітэту мае мэтай толькі кармленьне галодных. Што датычыць збажовай помачы на насеньне, дык на гэта так сама ўжо падрыхтавана збожа з іншых крыніцаў.

**Тыфус у Маладэчанскім павеце.** На абшары маладэч. пав. ўсьцяж шалее эпідэмія тыфусу, асабліва у гмінах беніцкай, ракаўскай і гарадоцкай. Ня гледзячы на энэргічныя меры санітарных уладаў, эпідэмія, як падае віленская прэса, расьце...

## Б. С. С. Р.

**З асьветнае нівы.** Як падае „Зьвязда" ў № 12, лічба народных школ у межах Савецкае Беларусі ў 1933 годзе дайшла да 8,547 (у 1931 г. іх было 6,507). Вучыцца ў гэтых школах 1.148,000 дзяцей (96 прац. усяе лічбы дзяцей у БССР).

Паводле тэй-жа газэты, у 1933 г. у БССР існавала 19 вышэйшых школ, 83 тэхнічныя школы, 35 рабфакаў (работніцкіх факультэтаў); лічба навукова-дасьледчых установ дайшла да 27—з Беларускай Акадэміяй Навук на чале.

Тэатраў у Савецкай Беларусі ёсьць 11. Штодзенных газэт—11, якія друкуюцца агулам у ліку 297,500 экз. Раённых часопісаў выходзіць 75 у ліку 298,000 экз.

Ня маючы магчымасьці атрымліваць савецкіх газэт, якія ў Зах. Беларусь не пасылаюцца, падаем гэтую жменю інфармацыяў паводле чэскага часопісу „Slovansky Prehled" (Прага).

# Палітычная хроніка.

**Веснавая ліцытацыя абшарніцкіх маёнткаў у Польшчы.** Газэты падаюць цікаўныя лічбы выстаўленых на „вясеньнюю ліцытацыю" маёнткаў абшарнікаў у Польшчы. Адно толькі Таварыства Зямельнага Крэдыту ў Варшаве выставіла на публічную прадажу 955 маёнткаў. Газэты падлічаюць, што гэта — толькі трэцяя частка ўсіх маёнткаў, выстаўленых на прадажу зямельнымі банкамі іншых часьцін Польшчы. Агулам блізу 3.000 маёнткаў выпадаюць з рук іх няздольных гаспадарыць на зямлі ўласьнікаў. І гэта—ня гледзячы на тыя сотні мільёнаў розных палёгкаў, канвэрсіяў, дотацыяў і г. д., якія ўсьцяж атрымліваюць гэтыя абшарнікі ад ураду — коштам іншых, карысных для дзяржавы, кляса ў насяленьня.

**Гаспадарчыя перагаворы.** У Лёндане вядуцца англійска-польскія перагаворы ў справе гаспадарчага зьбліжэньня абодвух краёў.

**Канфлікт паміж Польшчай і Чэха-Славакіяй** узьняўся на грунце „польскае акцыі" ў пагранічных паветах Ч.-Сл., дзе ёсьць польскае насяленьне. За арыштаваных тутака палякоў былі — „у парадку ўзаемнасьці" — высланы з Польшчы некалькі чэхаў. Але чэшскі суд, разабраўшы справу, арыштаваных апраўдаў, і інцыдэнт тым самым як быццам зьліквідаваны.

———

**Справа „разбраеньня".** Падыходзіць дзень 10 красавіка, калі ў Жэнэве мае сабрацца прэзыдыум так зван. разбраенчай канфэрэнцыі, які і мае вырашыць, калі дый ці наагул мае быць склікана яна на новую сэсію.

Дзеля таго, што англійскі ўрад хоча за ўсялякую цану дайсьці хаця б да „гнілога" паразуменьня ў абмежаньні збраеньняў на сушы і ў паветры, ён зрабіў Францыі новыя уступкі, згаджаючыся на дадатковыя гарантыі яе бясьпечнасьці—ў замену, зразумела-ж, за дадатковае разбраеньне Францыі. Бо-ж толькі такім чынам можна зьменшыць і дазбраеньне Нямеччыны—на падставе раўнапраўя.

Ня гледзячы на гэта, найважнейшы чыньнік удачы канфэрэнцыі: французска-нямецкае паразуменьне—цяпер якраз найбольш далёкі ад мэты. Гітлер, заявіўшы голасна, што „для ўсяго сьвету Вэрсальскі трактат — даўно нябошчык",—цьвёрда стаіць на сваіх дамаганьнях, умысна зацягіваючы справу дыплёматычнай перапіскай. З свайго боку Францыя адкрыта распачала з сваімі саюзьнікамі гутарку аб так-зван. „санкцыях", ці мерах кары і прымусу проці Нямеччыны — на выпадак нарушэньня ёю гэнага самага.. Вэрсальскага трактату!

Дзеля таго французскі міністар замежных спраў пачаў аб'езд сталіцаў саюзных дзяржаў. Пасьля візыты да бэльгійскага ўраду, з якім, як заявіў мін. Барту, дайшло ўжо да поўнага паразуменьня ў справе небясьпекі нямецкіх збраеньняў, французскі міністар выбіраецца ў бліжэйшы час (21 красавіка) ў Варшаву.

Ці ў Варшаве французскаму міністру пойдзе ўсё так лёгка, як у Брусэлі, аб гэтым польская прэса піша розна.

**Савецкія варункі ўваходу ў склад Лігі Нацыяў.** Англійская прэса піша, якія варункі стаўляюць Саветы дзеля свайго ўваходу ў склад Лігі Нацыяў:

1. Насамперш—усе сябры Лігі, якія дагэтуль яшчэ ня прызналі СССР, павінны зрабіць гэта фармальна.

2. Ліга павінна зрабіць урачыстую дэклярацыю роўнасьці ўсіх расаў на сьвеце (—пункт гэты скіраваны проці гітлераўскага „расізму", які прызнае вышэйшай, а таму—„адзінай маючай права на жыцьцё" расай—арыйскую, тачней: адну толькі германскую расу!)

3. Ліга павінна грунтоўна перабудавацца, прыняўшы за аснову, замест Вэрсальскага трактату,—пакт Кельлёга.

4. Францыя асабліва стараецца, каб СССР увайшоў у склад Лігі, а таму—заключэньне французска-савецкага саюзу вельмі прысьпешыла-б гэты крок з боку Саветаў.

5. Ліга павінна прыняць запрапанаванае савецкай дэлегацыяй на разбраенчай канфэрэнцыі азначэньне „нападаючай стараны", прынятае ўжо ў пактах СССР з усімі яго суседзямі.

**Савецкі ўрад запрапанаваў урадам Літвы, Латвіі і Эстоніі прадоўжыць на 10 гадоў заключаныя імі пакты аб узаемным ненападаньні і аб вырашэньні ўсіх спораў палюбоўна.** Усе тры суседкі СССР на гэтую прапазыцыю адказалі прыхільна.

**„Вайна ня блізка".** У гутарцы з французскім журналістам Мусоліні заявіў, што, хаця пераможаныя дзяржавы ніколі ня выракуцца дамаганьня перагляду трактатаў і граніцаў, каб паправіць зробленыя ім крыўды, але вайна ў сучасны мамэнт яшчэ ня блізкая. У кожным разе — не фашыстаўская Італія „падложыць вагонь пад тую бочку з порахам, якую прадстаўляе сабой сучасная Эўропа".

**Новая канстытуцыя Аўстрыі.** Аўстрыйскі ўрад сам — без парляманту (скасаванага) — апрацаваў і абвясьціў, як „увайшоўшую ў сілу", новую канстытуцыю дзяржавы. Канстытуцыя пакідае саюзны склад дзяржавы, але ўстанаўляе лад фашыстаўскага тыпу: на чале дзяржавы стаіць прэзыдэнт, які назначае і зьмяняе ўрад; саюзны (цэнтральны) ўрад мае ўсю поўню выканаўчае і заканадаўчае ўлады, можа навет зьмяняць канстытуцыю!... Сойм пакінены неяк „для прыізвітасьці". Пры ім працуюць, як дарадчыя органы, 4 рады. Сойм або прымае, або ня прымае ўрадавыя законапроекты, але ніякіх зьменаў у іх рабіць ня можа. Калі ня прыме, дык і ня трэба: ўрад сам абвесьціць яго законам. Так-званыя „канстытуцыйныя гарантыі", ці „правы чалавека і грамадзяніна" ў канстытуцыі абмежаны в. значна. Харак-

тэрна і тое, што ў новай канстытуцыі выкінены зусім пункт аб тым, што Аўстрыя зьяўляецца рэспублікай, як і словы, што „ўсялякі закон паходзіць з волі народу“. На мейсца апошніх слоў устаўлена, што „ўсялякі закон і правы паходзяць ад Бога“.

**Бюджэт Нямеччыны.** Афіцыяльна апублікаваны лічбы дзяржаўнага бюджэту Нямеччыны. Баланс даходаў і выдаткаў зьведзены ў суме $6^{1}/_{2}$ мільярдаў марак. Гэта —больш за 14 мільярдаў злотых.

**У нетрах Азіі.** У найглыбейшых нетрах Азіі, дзе дагэтуль панаваў адвечны спакой, цяпер ідзе страшэнная барацьба зыйшоўшыхся з розных старон сьвету „валадароў зямлі“. З захаду напіраюць бальшавікі, прадаўжаючы традыцыйнае — ад XVI веку — імкненьне расейцаў на ўсход; з паўдня — з Індыі—праз Гімалаі і Тыбэт — пасоўваюцца англійцы, стараючыся зусюль забясьпечыць „брамы ў Індыю“; з усходу, ступаючы жалезным ботам па жывым Кітаю, як па бруку, ня йдзе, а папросту бяжыць Японія. Дый урэшце ўсе тры канкурэнты зыйшліся ў усходнім (кітайскім) Туркестане, які ляжыць блізу ў самым цэнтры Азіі. Кожны з іх пробуе з гэтай часткі дзяржаўнай тэрыторыі Кітаю стварыць „незалежную дзяржаву“, так-званы „буфэр“, але з тым, каб падпарадкаваць яе сваім уплывам. Пакуль што барацьба ідзе, як і ў Афганістане, паміж Англіяй і Саветамі, але дабягае ўжо да мейсца—праз Манголію—і Японія...

**М. Дальны.**

## „Бабка“.

У людзей — сьвята, а ў Івана — няшчасьце сталася. Карова зьлягла.

Зранку яшчэ зусім здаровая была. Цешыўся. Добра ацялілася. Цялятка такое харошае. Падрасьце—будзе чым падаткі аплаціць. Пэўне-ж Эля дасьць двацатку.

Заўважыў Іван бяду зусім прыпадкова. Зайшоў у хлеў парасятам падсьцяліць. Увайшоў і атрупеў. Сэрца мужыцкае ёкнула. Ляжыць карова. Галава ўніз. Ледзь дыхае. То-ж уся апора для сям'і.

— Быцька... быцька... кажа Іван.

І скуль гэтулькі цяплыні ў гэтым адным слове... Вывярнула вочы. Маўчыць. Поглядам сваім як-бы гаворыць, што ўстаць ня можа. А гаспадара яна любіць.

На бяду—жонкі ў хаце няма—пайшла... ў царкву. А ўжо вечар. Цёмна. Ды дождж заімжыў. Будзе да канца стаяць. Покі дождж перастане.

— Эх, каб цябе паляруш!—злосна бурчыць Іван. У сэрцы — трывога і злосьць мяшаюцца.—Павалачэцца-ж кудысь — думае ён аб жонцы. Зьбіў-бы, здаецца, за гэтае валанданьне. Эх,—патаскуха!

— Вера! — крычыць ён на вуліцу.

Дзеці ў канцы вёскі шамраць. Там і Вера.

— Вера! — паўтарыў злосна.

Ня хочацца ёй. Прыкідаецца, што ня чуе. Крык аднак сярдзіты. З змроку ля плоту вырастае цень Веры. Худая яна, бледная. Малаком трымаецца. Вера дастае бухтэля ў сьпіну. Расплываецца ціхім плачам.

— Бяжы хутчэй да Агаты. Кліч! Кажы— карова ўмірае.

Штосьці страшное. Вера чуе гэта. З Лыскай штось ня добра. А яна сягоньня цялятка бачыла. Хутка бяжыць Вера. Агата — вун дзе — аж на канцы мястэчка. А з вёскі мястэчка віднае. Агата нядаўна туды з іх вёскі перабралася. Лепш ёй там. Варожыць яна, людзей лечыць, скаціну ратуе.

Вера бяжыць бяжком. На дарозе на аднэй назе падскаквае. Падскочыць і ізноў бяжыць. Каб хутчэй. А то дзеці і спаць пойдуць. Як старыя з царквы прыйдуць.

Прыбегла, а бабкі няма: у царкве. Моліцца. Ня ведае Іван, што тут рабіць. Зайшоў у хлеў. А карова — яшчэ горш. Вось зараз, здаецца, кончыцца. Прынёс вадзіцы. Можа што будзе. Ня хоча. Папырскаў крыху. Як бы ачуняла трошкі.

Увайшоў у хату. Сеў на лаву за стол. У Карнюковай хаце агоньчык засьвяціўся. Бачыў, як жонка Карнюковая па хаце краталася. „Вячэру, пэўне, варыць“,—падумаў.

Прыйшла старэйшая дачка. Нічога не парадзіш. Паслаў па вэтэрынара ў мястэчка. Дый ці й яго ў хаце застане? Вечна ў разьезьдзе. Панскіх коняў лечыць. Часам дзе на вёску папросяць. Трудна цяпер. Грошаў няма. Так скаціна й гібее.

Цямнела хутка. Ці можа думкі так займалі Івана, што не заўважыў часу. А думкі былі цяжкія і варушыліся паволі.

Зьявілася ўрэшце Ганна, жонка. І як-бы згадала, бабку прывяла, Праксэлю. Знаёмыя добрыя. Мала, што ў аднэй вёсцы жылі, дыкжа няраз і чарку выпівалі на хрэсьбінах ці на хаўтурах. Ну, цяпер то кароўка можа ня згіне.

— Бяда, цётка, — зьвярнуўся адразу.

— Што-ж такое, не давядзі Госпад? — насцярожылася Праксэля.

— Лыска зьлягла.

— А мае-ж вы родныя! — загаласіла Ганна і заварушылася, скідаючы сьвяточную хустку.

— Вера! хутчэй нясі лампу з сьценкі. Ды не разьбі, глядзі. І што-ж веце скажаце?— Зрана была такая здаровая—Ганна разьвяла рукамі. Хадзем хутчэй, Праксэлька, рыбачка.

Запалілі лямпу, панясьлі асьцярожна. Дождж перастаў, толькі вецер дуронік з-за клуні наляцеў, задзьмухнуў вагонь. Вярнуліся ў хату. Доўга Ганна дзьмухала на вугольле, покі запалілі лучыну. Закрылі лямпу рукамі, палой і панясьлі, як скарб, з таёмнасьцю нейкай.

(Даканчэньне будзе).

Рэдактар: М. СІНЯУСКІ.—Выдавец: ТБА. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Ням 22